# БАЦЬКАЎШЧЫНА



**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 33 (568) — Нядзеля 13-га жнівеня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15

# У разгары бэрлінскага крызісу

Два месяцы спусьціўшы пасьля сустрэчы прэзыдэнта Кэнэды з Хрушчовам у Вене, савецкая экспансія супраць заходняга Бэрліна дасягнула свайго кульмінацыйнага пункту. Аднэй із асноўных прычынаў гэтай кампаніі, бяз сумлеву, зьяўляецца намер Масквы замкнуць напасьледак пралом у зялезнай заслоне, які прыносіць шмат няпрыемнасьці, спыніць няўхільны ўплыў лепшых і людзкіх формаў жыцьця з заходняга Бэрліна і палажыць канец масавым уцёкам з усходняй зоны Нямеччыны. Паводля заходнянямецкіх дадзеных, ад канца вайны да сярэдзіны 1961 году прыблізна пяць мільёнаў Немцаў пакінула савецкую зону. У вапошні час, у сувязі із завайстрэньнем канфлікту, гэтыя ўцёкі яшчэ болей узмоцніліся й дасягаюць часамі 3.000 чалавек у дзень (30 ліпеня). Гэтыя ўцёкі народу зь Нямецкай Дэмакратычнай Рэспублікі зьяўляюцца ня толькі нявыносьлівай ганьбай для рэжыму Ульбрыхта, ня толькі пытаньнем далейшага існаваньня НДР, але й небясьпекай для выкананьня гаспадарскіх плянаў краінаў Рады Эканамічнай Узаемадапамогі.

Аднак, хаця гэтыя факты самі ў сабе не зьяўляюцца нязначнымі, усё-ж яны недастатковыя для таго, каб выясьніць актуальнасьць і вайстрыню штучна выкліканага камуністычным бокам новага завайстрэньня бэрлінскага крызісу, таму што такое разьвіцьцё выпадкаў кіраўніцтва НДР магло-б у якойсьці ступені спыніць звычайнымі мерамі дзяржбясьпечнасьці. Масавыя ўцёкі, ня глядзячы на іхныя выняткавыя разьмеры ў вапошнім часе, у такой-жа ступені ня новыя, як ня новая й аргумэнтацыя кіраўніцтва КПСС у карысьць зьмены статуту заходняга Бэрліна.

«Заходнія дзяржавы ня маюць правоў на Бэрлін», — гэтак гаворыць савецкая тэза, матываваная спэцыяльнымі юрыдычным і маральным аргумэнтамі. Маршал Чуйкоў на дэманстрацыі з нагоды дваццатай гадавіны пачатку нямецка-савецкай вайны прывёў наступнае абаснаваньне савецкага пункту гледжаньня на Бэрлін, паклікаўшыся на яго заваяваньне савецкімі войскамі, якое, на ягоную думку, зьяўляецца заслугай аднэй толькі Чырвонай Арміі. Ён сказаў: «Гістарычная праўда такая, што ў часе штурму Бэрліна кругом яго ня было ніводнага амэрыканскага, францускага або ангельскага жаўнера, апрача ваеннапалонных, якіх мы вызвалілі. Дзеля гэтага неабаснаваныя прэтэнсіі кіруючых колаў ЗША, Ангельшчыны й Францыі на якіясьці правы ў Бэрліне» («Камсамольская праўда», 22. 6. 1961).

Галоўныя савецкія аргумэнты натолькі празрыстыя й старыя, што шкода часу іх аспрэчваць. Ня менш слабая й савецкая аргумэнтацыя собскага пункту гледжаньня на статут заходняга Бэрліна. Як ведама, прэзыдэнт Кэнэды запрапанаваў Савецкаму Саюзу перадаць справу на вырашэньне арбітражнага суду. Пакуль Хрушчоў стараецца ўхіляцца ад гэтага, няма патрэбы хапацца за аспрэчваньне юрыдычнай дакумэнтацыі яўна дэмагагічнага характару савецкага гледзішча.

Савецкая прапаганда называе свабодную часьць Бэрліна «базай антысавецкай падрыўной работы імпэрыялістых», небясьпечнай для міру; гэтыя цьверджаньні прыпамінаюць прэцэдэнс канфлікту зь Фінляндыяй у пэрыяд Рыбэнтропаўска-Молатаўскага супрацоўніцтва. Вартае ўвагі, што тадышнія савецкія абвінавачаньні скончыліся не нападам Фінляндыі на Савецкі Саюз, а савецкай ваеннай агрэсіяй супраць Фінляндыі.

Савецкія аргумэнты няновыя й ня спрычыняюцца да стварэньня адпаведнай атмасфэры для міралюбных, аб'ектыўных перамоваў. Можна сказаць навет, што савецка-амэрыканскія перамовы аб заходнім Бэрліне й падпісаньні «мірнай» умовы зь Нямеччынай у запраўднасьці ня маюць ніякіх шансаў на посьпех. Не гледзячы на вышэй адзначаную упорыстасьць і прымітыўнасьць савецкай палітыкі ў Цэнтральнай Эўропе, можна выказаць прыпушчэньне аб тым, што, завайстраючы ўзаемадачыненьні з Захадам, ЦК КПСС будзе хапацца за найбольш розныя й часта нечаканыя ходы й прыхваткі, мэтай якіх будзе зьяўляцца вывад дзяржаўных і грамадзкіх колаў Захаду із стану палітычнае раўнавагі й дасягненьне па магчымасьці большых ад іх уступак.

Ключом для падобнага стылю вядзеньня савецкай палітыкі зьяўляецца праклямацыя ў праекце праграмы КПСС неабходнасьці неспадзяванай зьмены тактычных прыхваткаў змаганьня супраць капіталізму, якая зьяўляецца новым разьвіцьцём савецкай тэзы аб неабходнасьці разнастайнасьці тактычных прыхваткаў у палітыцы, камунізацыі й саветызацыі сьвету: «Пасьпяховасьць змаганьня работніцкай клясы за перамогу рэвалюцыі будзе залежыць ад таго, наколькі гэтая кляса й ейная партыя апануюць усе формы змаганьня — мірныя й нямірныя, парляманцкія й непарляманцкія і будуць гатовыя да найбольш шыбкай і нечаканай зьмены аднэй формы змаганьня на другую» («Радыя-Масква», 30. 7. 1961).

У цяперашні пэрыяд часу асабліва вялікую цікавасьць прадстаўляе прааналізаваць пытаньне, чаму якраз у дадзены мамэнт, спусьціўшы няпоўных два месяцы пасьля Венскай сустрэчы, савецкая праграма «мірнага суіснаваньня» павінна была быць заменена штучным забайстрэньнем бэрлінскага крызісу, узмацненьнем спаборніцтва ў галіне збраеньняў й рознымі савецкімі пагрозамі. Пры гэтым варта прыпомніць і савецкі ультыматум 1958 году. Кідаецца ў вочы, што тадышні шасьцімесячны тэрмін быў праклямаваны ў пэрыяд падгатоўкі да XXI партыйнага зьезду (студзень-люты 1959 г.). Цяперашнія пагрозы ўзноў такі супадаюць з прыгатавальнымі працамі да вызначанага на кастрычнік сёлета XXII партыйнага зьезду. Аднак будзе недаравальнай недаацэнай цяперашняга бэрлінскага канфлікту, калі будзем яго прыраўніваць да ультыматуму 1958 году і разглядаць яго толькі як прапагандовы акт, які стварае пажаданую для хрушчоўскага кіраўніцтва перадзьездаўскую атмасфэру.

Савецкая агрэсія ў кірунку заходняга Бэрліна цяпер не зьяўляецца простай прапагандай. Гэта адзін із сяродкаў разладаваньня напружаньня ўзаемадачыненьняў між камуністычнымі кіраўнікамі гэтак званага «сацыялістычнага лягеру», што сталася ўжо сталым крызісам. У гэтым дачыненьні савецкі наступ на Бэрлін залежыць ня толькі ад праведзеных або з... іяваных унутры Савецкага Саюзу партыйных кангрэсаў і нарадаў, а й ад анімознай Маскоўскай канфэрэнцыі 81-эй камуністычнай партыі, што адбылася ў лістападзе 1960 г. Усе гэтыя канфэрэнцыі й зьезды ня былі самастойнымі ў парляманцкім сэньсе

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Аб новай праграме КПСС

Нядаўна апублікаваная новая праграма КПСС выклікала вялікае зацікаўленьне ўва ўсім сьвеце. Як ведама, другая частка гэтага вялізарнага дакуманту зьмяшчае дэтальна размаляваны вобраз жыцьця грамадзян Савецкага Саюзу на працягу наступных 2 дзесяцігодзьдзяў. Падчас гэтага пэрыяду, паводля запэўніваньняў аўтараў праграмы, павінна быць «у васноўным пабудаванае камуністычнае грамадзтва». На першы пагляд, вобраз гэты вельмі імпазантны. Мы ня будзем тут паўтараць усіх тых абяцаньняў, якія зьмешчаныя ў дакуманьце. Адзначым толькі адну супярэчнасьць. Пасьля пераліку элемэнтаў матарыяльнага дабрабыту, якія павінны стацца дасталткам савецкіх грамадзян у працэсе пабудовы камунізму, у праграме ёсьць словы, якія фактычна робяць гэты дабрабыт недасягальным міражом. Мы маем на ўвазе наступны пасаж: «Заплянаваная праграма можа быць з посьпехам ўва ўмовах міру. Ускладненьне міжнародных абставінаў і выкліканае гэтым неабходнае павялічэньне выдаткаў на абарону можа затрымаць зьдзейсьненьне плянаў уздыму дабрабыту народу». Так гаворыцца ў другой частцы праграмы. А першая-ж частка праграмы — гэта, фактычна, плян змаганьня супраць некамуністычных краінаў, плян пашырэньня камуністычнай сыстэмы на ўсю зямную кулю. Інакш кажучы, першая частка праграмы мае якраз на мэце ўскладненьне міжнароднага палажэньня, якое, паводля словаў самых аўтараў праграмы можа затрымаць — і, зразумела, затрымае — зьдзейсьненьне плянаў уздыму дабрабыту народу. Ёсьць старая француская прымаўка: «Гэтая жывёла вельмі шкодная: калі на яе нападаюць, яна бароніцца». Дакладна таксама і некамуністычны сьвет напэўна і далей будзе рабіць мерапрыемствы, сьціраваныя на абарону супраць камуністычнай экспансіі.

Ці зьмяшчаюць паасобныя пункты праграмы што-небудзь канкрэтна новае? Як гэта ні дзіўна — не. Мы раней ўжылі слова «вобраз». І вось важна ўглядзецца ў яго, дык праз контуры матарыяльнага дабрабыту відаць знаёмыя рысы ўсіх заганаў савецкага ладу. Прыкладам — падазроны націск на такія паняцьці, як «праца» і «дысцыпліна». Сам па сабе зьмест гэтых паняцьцяў — гэта самазразумелая рэч у кожным грамадзтве. Але пры савецкім ладзе сэнсавы зьмест гэтых словаў набыў спэцыфічны і няпрыемны калярыт. І калі мы чытаем у праграме, што «камуністычнае грамадзтва не вызваляе сяброў грамадзтва ад працы», што яно вымагае «высокай арганізаванасьці, дакладнасьці і дысцыпліны»; калі мы чытаем у наступным разьдзеле, што «стварэньне матарыяльна-тэхнічнай базы камунізму вымагае далейшага разьвіцьця цяжкой прамысловасьці»; калі мы даведваемся, што «камунізм прынясе з сабой вышэйшыя тэмпы росту прадукцыйнасьці працы ў параўнаньні зь ягонай аплатай» (гэта літаральная цытата), дык мы адразу пераносімся із сфэры утапічных зьяваў у галіну знаёмай зямной прозы. Або возьмем разьдзел аб савецкай гаспадарцы. Там ёсьць адна фраза, якая ставіць пад пытаньне ўсе ідылічныя прадсказваньні аб дабрабыце сельскага насельніцтва. Услухайцеся ў падтэкст гэтай фразы: «Трэба, каб узровень закупных цэнаў узбуджаў калгасы павышаць прадукцыйнасьць працы і зьніжаць вытворчыя выдаткі, бо, аснову павышэньня прыбыткаў калгасаў складае павялічэньне сельска-гаспадарчае прадукцыі і зьніжэньне ейнага сабекошту». Гэта значыць, што дзяржава будзе і далей амаль задарма адбіраць збожжа і іншую прадукцыю ад калгасаў. Аднача сна, у праграме гаворыцца — цытуем: «Строгае захоўваньне калгасамі і калгасьнікамі сваіх забавязаньняў перад дзяржавай — непарушны прынцып іхнага ўдзелу ў разьвіцьці ўсёй народнай гаспадаркі».

Або яшчэ адзін, апошні прыклад — прафсаюзы. Яны — гаворыцца ў праграме — «забавязаныя, папершае, стала клапаціцца аб павышэньні камуністычнай сьведамасьці масаў; падругое, уцягваць работнікаў у змаганьне за далейшы рост прадукцыйнасьці працы», і толькі патрэйцяе, яны забавязаныя «ахоўваць матарыяльныя інтарэсы і правы працоўных»...

Такім чынам, ядро сыстэмы застаецца тым-жа, што і дасюль; застаецца пляновая сыстэма, застаецца партыйнае ўмяшаньне ўва ўсе сфэры людзкога жыцьця; застаецца эксплюатацыя работнікаў і сялян. Але можа найбольш страшным зьяўляецца тое, што аўтары праграмы паказваюць цяперашнюю савецкую рэчаіснасьць як быццам найвышэйшым этапам ўсяе гісторыі людзтва. Паводля вэрсіі аўтараў праграмы выглядае так, што Гомэр і Праксытэль, Эўклід і Арыстотэль, Віргіль і Юстыньян, Леанардо да Вінчы і Рафаэль, Ньютон і Ляйбніц працавалі над сваймі несьмяротнымі творамі, рабілі адкрыцьці толькі дзеля таго, каб падвесьці людзтва да ягонай канчальнай мэты — да быту ў савецкай дзяржаве — зь некаторымі колькаснымі папраўкамі ў 1980-ым годзе. І гэта прадстаўляе падуладным народам цэлага сьвету як нейкае сьвяшчэннае пісаньне, група бяздарных, што заселі ў канторах ЦК КПСС. Няма ніякага сумліву, што пераважная бальшыня грамадзян Савецкага Саюзу не згаджаецца з такім тлумачэньнем сусьветнай гісторыі.

**Р. С.**

# Сёе-тое

Нарэшце Мікіта крышку адсланіў заслону й пазнаёміў сьвет зь некаторымі «благамі» камунізму, які ўжо прыйдзе ў 1981 г. (дык старайцеся-ж хаця дажыць, каб быць сьветкамі таго зямнога раю). І так спатрэбілася дзесяць тысяч (ці колькі там?) слоў, каб баіць дзівы-дзівосы аб тым нячутым і нябачаным дагэтуль дабрабыце, які, паводля Мікіты, тут-жа чакае на «перадавы сацыялістычны» за парогам камунізму.

Харчы й памешканьні будуць дармавыя, магчыма навет што й самакаты. Аб прысядзібных зямельных дзялянках, якія цяпер забясьпечваюць сяк-так жыцьцё прыгоньнікаў-калгасьнікаў, у тым гістарычным дакуманьце паміну няма. Можна мяркаваць, што дзялянак калгасьнікі ня будуць мець, бо й нашто-ж? Харчы, памешканьні, вопратка — усё дармовае. Адным словам як у тэй байцы — рэкі малаком паплывуць, дрэвы хлебам расьці пачнуць, а горы — мёдам. Мікіта, вядома-ж, ня першы ўжо раз малюе «благадаці», да якіх прывядуць ён і іншыя «мудрыя й непамыльныя».

Тымчасам: «есьце каніну. А калі ня верыце, што смачная, дык адно папробуйце — вас тады й за вушы не адцягнеш ад яе».

*

Некалі пасьля вайны Сосо, замяніўшы часьць Бэрліну на вялізны кавалак Нямеччыны, думаў, што вельмі надуў заходніх хаўрусьнікаў. Яно так і выглядала. Хапала, паводля Сосо, адрэзаць шляхі сувязі Бэрліна з Зах. Нямеччынай і заходняя часьць гораду, быццам тая сьпеленькая грушка, зваліцца ў руку. Дыктатар пераканаўся быў у 1948 годзе, што яно ня так. Але бальшавікі зусім, мусіць, праваронілі тое, што заходні Бэрлін зробіцца дзіркай, праз які будуць адплываць, шукаючы вольнасьці, самыя каштоўныя сілы з Усх. Нямеччыны.

Цяпер няма рады. Усё-ж цяжка паверыць, каб за Бэрлін пачалася вайна. Навет крамлёўскія «рабяты» на такое не асьмеляцца, бо ведаюць, што ім найперш будзе «капут».

*

Ужо пачалася прапагандовая какафонія казённай бальшавіцкай прэсы ў сувязі із зборкай ураджаяў, пакуль што ў паўдзённых раёнах Беларусі (маем наўвеце палову ліпеня).

Там, дзе людзі запраўды вольныя й працуюць для собскага й агульнага дабрабыту, сьмешна было-б, каб нехта прынагляў іх у прэсе, каб завіхаліся зь сярпамі ці камбайнамі. Гэта адно бальшавіцкая «Звязда» і іншыя зорачкі мусяць тукаць-гукаць на прыгоньнікаў, якім не залежыць на ўзбагачваньні тыранаў коштам сваіх крывавых мазалёў. Бальшавіцкая прэса ёсьць цяпер важным, ці не асноўным цівуном у падганяньні зьняволеных да працы. Гэта й нічога новага. Здавалася-б даўно ўсім ведамае. Адно можа новае гэта тое, што ўвайшлі ў моду гэтак званыя «выязныя» або «рэйдавыя брыгады». Што-ж гэта за яны?

Узяўшы хаця-б «Звязду» за 19-га ліпеня, дзе «Звязда» і «Гомельская праўда» дзеляцца практыкай свайго рэйду ў Гомельшчыне, бачым, што ў рэйдзе прымала ўдзел 76 чалавек. Хто-ж такія гэтыя дармаеды-цівуны? А гэта прадстаўнікі розных ворганаў партыі, прапагандавага апарату, адміністрацыйнага і, калі льга так сказаць, падпіхальнага апарату — старшыні калгасаў, зьвеньнявыя, брыгадзіры й інш. значыцца самыя беспасярэднія цівуны, што стаяць ды тукаюць і гаркаюць, апошнія кроплі поту выціскаючы з прыгоньнікаў.

Гэтыя вось людцы езьдзяць па калгасах і саўгасах вобласьці ды пільна сочаць, каб пад'ярэмнікі цягнулі, натужваючы апошнія мускулы, а там-сям і ярмо тужэй засупоняць, каб, бывае, не зьляцела ці сасьлізнулася.

«Звязда» за 19-га ліпеня крычыць: абавязацельствы пад кантроль!»

І паведамляе: «Даказана: уборка раздзельная ўраджай беражэ».

Што гэта такое «раздзельная ўборка»? Можна мяркаваць, што нейкая вузенькая баразёнка, якой ад гэтага часу маюць іесьці прыгоньнікі, каб больш зрабіць.

А вось і некаторыя пэрлы, што сьветчаць як аб прагрэсе тэхнікі, так і аб тым, як людзі адносяцца да прапагандова-падпіхальнай какафоніі.

Цытуем: «Сёлета гэтай гаспадарцы (калгас «Савецкая Беларусь» Рэчыцкага раёну) трэба ўбраць збожжавыя на большай плошчы чым летась. Без тэхнікі не абысціся, але кіраўнікі калгасу чамусьці трымаюць курс на ручную ўборку, пры якой нібыта, як заявіў аграном Дайнека, страты збожжа змяншаюцца.

На палях... добрая збажына. Але зь першых дзён уборкі тут дапускаюцца вялікія страты. На коннай жняярцы працаваў Мікалай Кашыцкі. Поле было літаральна ўсеяна каласамі. Высьвятлілася, што Кашыцкі па прафэсіі каваль і ніколі на жняярцы раней не працаваў».

І далей: «Яшчэ больш дзіўныя справы ў паляводчай брыгадзе вёскі Гарошкава. Паблізу жытніх палеткаў размешчана арцельная птушкаферма, на якой каля 8 тысяч курэй. Брыгадзір птушкафермы Майсей Цітавец распарадзіўся (што за беларускае слова! — М. К—р) штодзённа выпускаць птушак на толькі што зжатае жыта...»

Гэта ня ўсё. І ў іншых рапартах «рэйдавых брыгадаў» аж кішыць ад зацемак, як людзі працуюць сярпамі, як стаяць і іржавеюць ненапраўленыя камбайны, ды й іншыя нябыліцы. Адно банды дармаедаў — «рэйдавыя брыгады» не патрабуюць запасных часьцяў. У іх усё складна.

Мы гэтта ўзялі пару вытрымак, можа й ня самых тыповых, але пэўна-ж ня першых і не апошніх, якія паказваюць як кульгае бальшавіцкая гаспадарская машына. Мэтады ўзьдзеяньня на прыгоньнікаў могуць мяняцца, вынік не! Каваль жне жыта, засьцілае ўсё поле каласамі, збоку-ж брыгадзір птушкафэрмы дазваляе сваім «пціцам» пажывіцца зжатым, але не сабраным яшчэ... Адным словам кажнаму, як тыя маскалі гавораць «Н-а-п-л-е-в-а-т-ь !»

А ты, Мікіта, тымчасам снуй явы аб залатым дабрабыце ў камунізьме.

**Міхась Козыр**

# У разгары бэрлінскага крызісу

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

зьявішчамі, якія вызначалі-б ступень разьвіцьця ўнутры камуністычнага блёку, а хутчэй за ўсё ярка заметнымі мамэнтамі нутраных разыходжаньняў і ліхарадкавымі спробамі іх хутчэйшага зьліквідаваньня.

Яшчэ больш цяжкай, чымся нутрана-гаспадарскія нястачы, для кіраўніцтва КПСС зьяўляецца яўна заўважальная страта дзясяткамі год устаноўленай «вядучай ролі» ў сьветавым камуністычным руху. «Дэклярацыя» Маскоўскай нарады 81-эй камуністычнай партыі зьяўляецца, у сутнасьці, нічым іншым, як жалюгодным дакумэнтам камуністычнага тэарэтызаваньня. За мінулае паўгодзьдзе зусім ясна даведзена, што гэтая «Дэклярацыя» толькі зьлёгку затуманіла існуючыя маскоўска-пэкінскія разыходжаньні, але гэтым не зьняла іх з палітычнага парадку дня сьветавага камунізму. «Адзінства» камуністычнага лягеру ўрачыста й заўсёды пацьвярджаецца і ў Маскве і ў Пэкіне, аднак пэкінскія камуністыя паранейшаму псуюць Савецкаму Саюзу ягоную палітычную ігру ў розных і разнаякіх аспэктах.

Два цэнтры ў сьветавым камуністычным руху (у Маскве і ў Пэкіне) зьяўляюцца яркай супярэчнасьцяй для ўсей саракагадовай савецкай партыйнай гісторыі. Савецкія патрабаваньні прыярытэту ў кіраўніцтве ня могуць быць дасягнутыя ні мэтадамі ворганаў дзяржаўнай бясьпечнасьці, ні бесьперапыннымі разважаньнямі аб «сьветавай каэкзыстэнцыі»; толькі практычныя посьпехі савецкай вонкавапалітычнай экспансіі могуць затрымаць аслабленьне савецкага «вядучага» палажэньня ў сьветавым камуністычным руху і ўмацаваць асабістае палажэньне Хрушчова, як канчальнага й адзінага наступніка Сталіна. Камуністычны рэжым, які ня ў сілах заўсёды расшыраць межы сваей магутнасьці, няўхільна павінен лічыцца з магчымасьцяй нутраных зьменаў, якія могуць навет межаваць з агульнай і згубнай для камунізму стратай інэрцыі.

З таго часу, як кіраўніцтву КПСС удалося камунізаваць і саветызаваць пояс усходняэўрапэйскіх краінаў-сатэлітаў, яму не ўдалося больш дабіцца якіх-небудзь станоўчых посьпехаў у расшырэньні свайго сьветавага ўплыву. Савецкая інфільтрацыя ў многіх афрыканска-азіяцкіх краінах, праводжаная пры помачы дыпляматыі, прапаганды й эканамічнай дапамогі, мае бясспрэчныя посьпехі, аднак не канчальнага й вырашальнага характару. Цяпер можна навет гаварыць і аб радзе беспасьпяховых акцыяў савецкай палітыкі. Нядаўная Каірска-Маскоўская перастрэлка прэсы чуць ня прыпамінае разьвіцьця Маскоўска-Белградзкага канфлікту. Урад Іраку змагаецца з камуністычнай інфільтрацыяй арыштамі й іншымі станоўчымі мерамі супраць камуністых, якія выклікаюць войстрыя савецкія пратэсты. Індыя й Інданэзія паранейшаму не захопленыя пэкінскім камуністычным кіраўніцтвам. Бясспрэчныя савецкія ўдачы ў Ляосе ня могуць поўнасьцяй раўнаважыць іншых няўдачаў савецкай палітыкі і ніякім чынам ня могуць служыць для Хрушчова неабходным яму апраўданьнем характару ведзенай ім савецкай вонкавай палітыкі. Для камуністычнай палітыкі ня існуе іншага апраўданьня апрача энэрцыі прасоўваньня наперад «сьветавай рэвалюцыі» і г. зв. «вызваленьня» іншых «паняволеных» народаў. Без выразнай і беспасярэдняй камуністычнай экспансіі няўхільна высоўваюцца на першы плян іншыя нутранапалітычныя праблемы ўсходняга блёку. А такіх праблемаў у «сацыялістычным» лягеры больш чымся дастаткова. Ужо ўвадным СССР прывярненьне сьмяротнай кары для «сацыяльна-небясьпечных» элемэнтаў паказвае на недастатковую стабільнасьць нутранага палажэньня.

Адкрыта і з экспансыўным тэмпэрамэнтам Хрушчоў абвінаваціў на студзенскім пленуме ЦК КПСС сваіх памочнікаў і супрацоўнікаў у цяжкіх заганах савецкай сельскай гаспадаркі. Таксама й поўгадовая справаздача аб дасягненьнях савецкай эканомікі яўна паказвае на значныя нутраныя гаспадарскія няўдачы.

Праклямаваныя Хрушчовам зьмены характару капіталаўкладаў зь перанясеньнем іх з галіны цяжкай прамысловасьці ў лёгкую і ў сельскую гаспадарку было таксама прадуманай рэакцыяй ЦК КПСС. Значнае спазьненьне з апублікаваньнем гэтай прамовы ясна паказвае на войстрае змаганьне між «дагматыкамі» й «рэвізіяністымі» ў вядучым слаі Савецкага Саюзу. Пасьпяховасьць гэтага змаганьня й ягоныя вынікі здаецца вызначацца на XXII зьезьдзе КПСС восеньню сёлета. Хто-б ня перамог у гэтым змаганьні, ён усёроўна будзе патрабаваць практычнай і пасьпяховай вонкавапалітычнай экспансіі. Ня трэба пры гэтым забывацца, што Бэрлін зьяўляецца яркім сымбалем заходняй абароназдольнасьці супраць савецкай агрэсіі й будзе заўсёды зьяўляцца пажаданым аб'ектам савецкай палітыкі. Прылучэньне заходняга Бэрліна да г. зв. «усходняга» блёку можа зрабіць для ўмацаваньня ягонага нутранага адзінства шмат раз болей, чымся ўсякія тэарэтычныя «Дэклярацыі».

Савецкае кіраўніцтва з тактычных меркаваньняў цяпер ня высоўвае патрабаваньняў прылучэньня. Наадварот, савецкая прапаганда запэўнівае свабодны мір у сваей гатовасьці падтрымаць права самавызначэньня бэрлінскага насельніцтва. Аднак прыклад Чэхаславаччыны паказвае, што ніякі вольны народ ня можа захаваць сваей свабоды, будучы заблякаваным ад асталага вольнага сьвету й пазбыўшыся сваіх дэмакратычных саюзьнікаў. ЦК КПСС ня можа сабе дазволіць, каб права на самавызначэньне існавала хоць-бы на невялікім пункце, які знаходзіцца геаграфічна унутры камуністычнай тэрыторыі. Ён ня можа не баяцца ажыўленьня прывідаў восені 1956 году, якія могуць мець згубны ўплыў навет і на разьвіцьцё сацыялізму-камунізму ўнутры самога Савецкага Саюзу. Навет у хрушчоўскай ультыматыўнай ноце заходнім саюзьнікам (27. II. 1958) быў ясна успомнены плян будучай саветызацыі заходняга Бэрліна. Савецкая нота не магла схаваць таго, што ўрад СССР стварэньнем бэрлінскага прэцэдэнсу пастанавіў падгатаваць прадпасылкі для будучай «асыміляцыі» заходняй часьці Бэрліна, якая «... задзіночылася-б з усходняй часьцяй, і Бэрлін стаўся-б адзіным горадам у складзе тае дзяржавы, на зямлі якой ён знаходзіцца» («Известия», 28. 2. 1958).

Нападаў на заходні Бэрлін савецкія кіраўнікі ня спыняць як папярэднімі разамі, не папрабаваўшы дабіцца выразных уступак ад Захаду. Гэта й прыдае бяссумлеўны драматызм абставінам. Як было заўважана вышэй, для ЦК КПСС выгадна мець напружанае палажэньне, выгадна, каб сьвет знаходзіўся на мяжы вайны. СССР можа цярпець такое палажэньне на працягу даволі доўгага часу, ведаючы, што Захад не пачне вайны сам. Паўстае пытаньне: колькі часу Захад можа знаходзіцца ў стане баёвай гатовасьці, у якой ён знаходзіцца цяпер? Ёсьць сур'ёзныя падставы прыпушчаць, што Хрушчоў у цяперашні мамэнт сьведама правакуе Захад, імкнучыся давесьці яго да стану баёвай гатовасьці, уважаючы, што калі не наступіць канфлікт, то з ходам часу гэты стан пакажыцца паасобным дзяржавым лішня дарагім мерапрыемствам і паступова пачне аслабляцца. Тады Хрушчоў зможа ня толькі ажыцьцявіць падпісаньне дагавору зь НДР і замену савецкіх жаўнераў нямецкімі (што ён зможа зрабіць ужо цяпер), але і завесьці абсалютны кантроль над камунікацыйнымі лініямі, што вядуць у Бэрлін, і навет дабіцца яго паступовай асыміляцыі.

Савецкія кіраўнікі будуюць усю сваю стратэгію ў бэрлінскім пытаньні на перакананьні, што Захад ня вытрымае псыхалягічнага й ваенна-палітычнага ціску й паддасца прыманцы «вольнага гораду» Бэрліна й савецкім прапановам аб нармалізацыі міжнароднага палажэньня.

Новая кампанія штучнага завайстрэньня савецкага вонкавапалітычнага курсу, што разьвіваецца ў аспэкце заходнябэрлінскага канфлікту зь Нямеччынай, дасягнула свайго апогэю. Яна прывяла да нязвычайна моцнага напружаньня міжнародных дачыненьняў. Гэтае завайстрэньне вонкава не падобнае на звычайнае хранічнае ўскладненьне пэрыяду г. зв. мірнага суіснаваньня. Гэта запраўдны міжнародны крызіс, які ў некаторай ступені навет прыпамінае палажэньне, якое стварылася напярэдадні Другой сьветавай вайны.

(«Аналіз цякучых падзеяў у СССР» Інстытуту Вывучэньня СССР, Мюнхэн, 2. 8. 1961).

# Калі сьляпыя пачнуць бачыць?

Мы маем на ўвазе палітычную сьлепату. У халоднай вайне, якая адбываецца цяпер паміж Захадам і Масквой, Захад з зьдзіўляючай упартасьцяй, якую можна назваць толькі палітычнай сьлепатой, далей ігнаруе найбольш балючую Ахілесаву пяту Масквы — нацыянальнае пытаньне. Ён у вялікай меры й далей жыве ў палоне духовага русафільства, для яго й далей Савецкі Саюз — гэта непадзельная «матушка» Расея. Да болю трагікамічна гучаць заходнія панэгірыкі ў гонар вызвольнага змаганьня афрыканскіх і азіяцкіх народаў. Кожная найдрабнейшая акцыя супраць нацыянальных правоў гэтых народаў выклікае буру пратэстаў сярод заходняй грамадзкасьці. Люмумбы ды іншыя афрыканска-азіяцкія палітыкі сталіся героямі нашых дзён.

Але аднachасова гэтыя панэгірыстыя, палымяныя абаронцы правоў паняволеных народаў некамуністычнага сьвету, з няпрыхованай абыякавасьцяй, а то й варожасьцяй ставяцца да вызвольнага змаганьня падсавецкіх народаў, ня гледзячы на тое, што нацыянальнай сьпеласьці афрыканскіх народаў нельга параўнаць з сьпеласьцяй народаў, паняволеных Масквой. Прыгадаем хоць-бы тое, які водгук знайшла сярод заходніх народаў пасьляваенная партызанская акцыя ў Прыбалтыцы, Беларусі, на Ўкраіне. Заходні сьвет яе проста ігнараваў. Сяньня кожнае дзіця на Захадзе ведае, хто такі Люмумба, але імёны змагароў за нацыянальнае вызваленьне паняволеных Масквой народаў, якія склалі свае галовы на ахвярнік сваіх бацькаўшчынаў, застаюцца няведамымі навет для некаторых вядучых заходніх палітыкаў.

Нацыянальныя праблемы Савецкага Саюзу, каляніяльна-імпэрыяльная палітыка Масквы на нерасейскіх тэрыторыях для такіх палітыкаў і для шырокай заходняй грамадзкасьці ўсё яшчэ зьяўляюцца «няведамай зямлёй». І незразумела, калі ня робіцца нічога, каб гэтую зямлю адкрыць.

У гэтым дачыненьні часта можна назіраць проста нейкую дзіўную гармонію паміж выступленьнямі асобных адказных прадстаўнікоў заходняга сьвету з савецкай прапагандай.

Апошнім часам на старонках савецкай прэсы зноў зьявілася некалькі панэгірыкаў у гонар «вялікага расейскага народу». Трэба пры гэтым падкрэсьліць, што за часоў Хрушчова такія панэгірыкі падпісваюцца выключна іменамі гэтак званых «нацменаў» (гаворачы савецкай тэрміналёгіяй). Такім чынам савецкая прапаганда хоча відавочна падкрэсьліць «аб'ектыўнасьць» сваіх аргумантаў і даказаць, што прапаведваная партыяй любоў да «вялікага расейскага народу» выходзіць быццам ад самых нерасейскіх народаў...

Так, напрыклад, у апошнім нумары «Вопросы філософіі» быў зьмешчаны перадавы артыкул сакратара ЦК кампартыі Казахстану Джандільдіна, у якім апошні намагаецца прыкрыць русыфікацыю... інтэрнацыянальным выхаваньнем працоўных. У артыкуле ў некаторых месцах аўтар аж захліпваецца, выказваючы пахвалы ў гонар «вялікага расейскага народу.» Ён «велічны ў сваёй маральнай сіле і ў багацтве свайго нутраного духовага сьвету.» Ён «найбольш перадавы, найбольш выдатная сацыялістычная нацыя... Ягоная магутная культура, ягоныя багатыя нацыянальныя традыцыі маюць вялізарны ўплыў на ўсе галіны духовага жыцьця савецкіх нацыяў...» Падобным панэгірыкам у гонар «вялікага расейскага народу» ёсьць таксама артыкул грузінскага «нацмена» Георгідзэ, зьмешчаны ў 10 нумары «Коммуніста» за гэты год.

Значэньне гэтых і іншых артыкулаў ня ў тым, што яны праслаўляюць расейскі народ. Гэта штодзённае зьявішча ў Савецкім Саюзе. Тут важнае тое, што за кулісамі гэтых артыкулаў хаваюцца новыя факты змаганьня паняволеных народаў з расейскім імпэрыялізмам. Асваеньне цалінных земляў прывяло, як ведама, да страшэннай русыфікацыі Казахстану. Гэта ў сваю чаргу выклікае роспачныя апазыцыйныя настроі сярод Казахаў. Наўсуперак партыйным цьверджаньням аб гэтак званым «дружным супрацоўніцтве ўсіх народаў СССР», — цьверджаньням якія не ў апошнюю чаргу разьлічаныя на замыльваньне вачэй Захаду, у Казахстане, як і ў іншых нерасейскіх рэспубліках, праходзіць сяньня глыбокае змаганьне казахскіх патрыётаў супраць русыфікатарскай палітыкі савецкага ўраду.

Гэта выразна адлюстроўваецца ў артыкуле Джандільдіна. Ён гаворыць аб патрэбе рашучага змаганьня супраць «перажыткаў нацыянальнай абмежаванасьці», якія яшчэ існуюць у Казахстане. Частка насельніцтва, маўляў, заражаная нацыяналістычнымі забабонамі ды нацыянальнай неталеранцыяй. Ён прапануе узмоцніць ідэялягічную працу партыі для выхаваньня працоўных у духу «сацыялістычнага інтарнацыяналізму й дружбы народаў». Інакш кажучы, ён

(Заканчэньне на 3-яй бачыне)

Ф. Кушаль

# Войны вялікага князя Маскоўскага Івана Трэйцяга зь Вялікім Княствам Літоўскім

### ЛІСТ АЛЕНЫ ДА СВАЙГО БАЦЬКІ ІВАНА ТРЭЙЦЯГА

«Гаспадар Бацюхна! Успомні, што я служэбніца й дзеўка твая, а аддаў ты мяне за гэткага-ж брата свайго, які ты сам. Ведаеш, што ты яму за мной даў і што я яму із сабой прынесла, але гаспадар муж мой ані на гэта не скардзячыся, узяў мяне ад цябе з добрае волі й дзяржыць мяне ўвесь гэты час у гонары й пашане і ў тэй любові, якую добры муж забавязаны даваць палове сваёй у сужэньсьцьве. Свабодна трымаю я веру хрысьціянскую грэцкага звычаю. Па цэрквах сьвятых хаджу, сьвяшчэнікаў, дыяканаў, сьпевакоў на сваім двары маю. Літургію й усялякую іншую службу Божую учыняюць перада мной усюдых, і ў Літоўскай зямлі і ў кароне Польскай. Гаспадар мой кароль, ягоная маці, браты каралі, зяці і сёстры й паны радныя і ўся зямля, усе спадзяваліся, што зы мною з Масквы ў Літву прыйшло ўсё добрае, вечны мір, любоў кроўная, дружба, дапамога на паганства, а цяпер бачаць усе, што зы мною ліха к нам выйшла: вайна, рацьць, здабыцьцё й спаленьне гарадоў ды воласьцяў, праліцьцё крыві хрысьціянскае, жонкі ўдовамі, дзеці сіратамі, палон, крык, плач, лямант! Гэткія спагада й любасьць твае да мяне. Па ўсім сьвеце паганства цешыцца, а хрысьціянскія гаспадары ня могуць надзівіцца і цяжка жаляцца: ад веку, кажуць нячувана, каб айцец сваім дзецям беды спрычыняў. Калі, Гаспадар Бацюхна, Бог табе не палажыў на сэрца мяне, дачку сваю, мілаваць, дык пашто мяне зь зямлі сваёй выпусьціў і за такога брата свайго выдаў? Тады й людзі-б праз мяне ня гінулі й кроў хрысьціянская ня лілася. Лепш бы мне пад нагамі тваймі ў тваёй зямлі памерці, чымся гэткую славу аб сабе чуць. Усе адно толькі й гавораць: дзеля таго ён аддаў дачку сваю ў Літву, каб тым дагадней зямлю й людзёў высачыць. Пісала-б табе й больш, ды зь вялікае журбы розуму не дабяру, толькі з горкімі й вялікімі сьлязьмі і са плачом табе, гаспадару й айцу свайму, нізка чалом б'ю: успамяні Бога й дзеля мяне, служэбніцы свае й крыві свае, пакінь гнеў несправядлівы й няжыцьцё з сынам і братам сваім, і першую любоў і дружбу сваю да яго захавай, каб кроў хрысьціянская болей ня лілася, паганства-б не сьмяялася, а здраднікі вашыя ня цешыліся-б, якіх айцы продкам нашым здрадзілі там на Маскве, а дзеці іхныя тут на Ліцьве. Зьлітуйся, вазьмі падаўнейшаму любоў і дружбу з братам і зяцям сваім. Калі-ж ня будзе на мне твае ласкі, дык сам можаш разумець, што пакінуць мяне ўсе родныя гаспадара майго й усе падданыя яго».

Мірныя перамовы трывалі вельмі доўга. Іван Трэйці зажадаў, каб Літва аддала яму Смаленшчыну й Кіеўшчыну, а пасьлы Аляксандра вельмі станоўка гэтаму супраціўіліся. Да запраўднага міру не дамовіліся й адно падпісалі на шэсьць год замірэньне. Паводля гэтага замірэньня, зробленага 25-га сакавіка 1503 году, уся прастора, на якой у згаданым дні стаяла маскоўскае войска, заставалася пры Маскве. Гэткім чынам, да Маскоўшчыны адыйшлі былі Дарагабуж, Раслаўль і ўся Севершчына.

Пасьля замірэньня, Іван Трэйці, наўсуперак прырачэньню, да Лігі Хрысьціянскіх Дзяржаваў не далучыўся. Праз два гады ён памёр. Паміраючы, ён перадаў маскоўскі вялікакняжы пасад не свайму ўнуку Дзьмітру, а сыну Зофіі Васілю-Гаўрыле, які й пачаў княжыць на Маскве, як вялікі князь Васіль Трэйці.

### АГУЛЬНЫЯ ВЫСНАВЫ

Вялікія князі Літоўскія (беларускія), што княжылі на Ліцьве пасьля сьмерці Вітаўта, былі ўсе добрымі патрыётамі свае айчыны, але толькі да часу, пакуль ня ўзыйходзілі на польскі каралеўскі пасад. Калі яны каранаваліся на польскіх каралёў, яны ўсе пачыналі занядбоўваць справы бацькаўшчыны й аддаваць свае здольнасьці польскай дзяржаве, нават, калі гэта спрычыняла вялікую шкоду Вялікаму Княству Літоўскаму. Зыркім прыкладам гэткіх дзіўных дачыненьняў можа быць вялікі князь Казімер Ягайлавіч, які, стаўшыся польскім каралём, стварыў вялікую Польшчу, пакідаючы аднachасна Літву на волю лёсу. Гэтаксама й Аляксандар, вядучы цяжкую вайну з Маскоўшчынай, здолеў на працягу пару год зарганізаваць добрую армію, знайсьці верных саюзьнікаў, перайсьці ў контр-наступ на маскоўскую армію й пачаць перамагаць яго на палёх змаганьня, маючы ўсе магчымасьці выйграць вайну, — пакінуў у гэткі вырашальны мамэнт сваё войска й, запрошаны Палякамі на караля, паехаў у Кракаў каранавацца. Выглядае, што нашым вялікім князём больш імпанавала быць каралямі й адыгрываць належную гэтаму тытулу ролю ў тагачасным сьвеце, чымся мацаваць сваё гаспадарства й гэтым самым здабываць яму большыя ў згаданым сьвеце вагу й голас. Паважнаю прычынаю гэтага зьявішча была, перадусім, вельмі непрадбачлівая польская ўсходняя палітыка, якая сьведама ймкнулася да паслабленьня Вялікага Княства Літоўскага, баючыся канкурэнта на ўсходзе. Бо якраз Палякі — зрабілі ўсё магчымае, каб не дапусьціць да каранацыі на караля Літвы вялікага князя Вітаўта, засуджаючы гэтым самым Вялікае Княства Літоўскае на паступовы заняпад. А калі-б Вітаўт стаўся Літоўскім каралём, дык ягоныя спадкаемцы, гэткія, як Казімер Ягайлавіч ды іншыя, бяручы да гэтага на ўвагу сьхільнасьць да Літвы рэспублікаў Ноўгарадзкае й Пскоўскае ды княства Цьверскага, — маглі-б стварыць на ўсходзе Эўропы вялізнае Літоўскае каралеўства, якое было-б супрацьвагаю Маскоўшчыне. Улічваючы гэта, Польшча пілнавала сваіх інтарэсаў. Адарваўшы ад Вялікага Княства Літоўскага Валынь, Падольле й Падляшша, яна пазбавіла Літву ня толькі вялікіх прастораў, але й людзкіх рэзэрваў. Гэткім чынам, у часы, калі Маскоўшчына пачала рабіцца, коштам распаду Залатое Арды, магутнаю дзяржаваю, Вялікае Княства Літоўскае, дзякуючы вышэй прыгаданым прычынам, пачало выразна слабець. І ўзноў пілнуючы сваіх інтарэсаў, Польшча не зрабіла нічога, каб дапамагчы Вялікаму Княству Літоўскаму ўзьняцца й займець досыць сілы, каб цяжкое змаганьне із што раз больш напорыстаю навалаю з усходу, скончылася ягонаю перамогаю. Палажэньне зьмянілася адно пасьля Люблінскае вуніі ў канцы 16-га стагодзьдзя, калі на змаганьне з усходам было ўжо запозна.

Але сам факт, што Вялікае Княства Літоўскае, пакінутае само на сабе, ня маючы зьніадкуль дапамогі, усё-ж на працягу каля 200 год паўстрымоўвала маскоўскі наступ на захад, захоўваючы сваю незалежнасьць, — можна вытлумачыць адно нязвычайнай ваеўнасьцяй і патрыятызмам нашага народу. Нашыя продкі былі запраўды тым мурам, які бараніў Эўропу ад усяго таго, што несла із сабою тыпова ўсходняя дзяржава — Маскоўшчына. Бо калі гэты мур заваліўся й Вялікае Княства Літоўскае згубіла сваю незалежнасьць, неўзабаве за ім — згубіла сваю незалежнасьць і Польшча.

**Крыніцы, зь якіх карыстаў аўтар:**

1. Tadeusz Korzon, Dzieje wojskowosci w Polsce.
2. Wladyslaw Smolenski, Dzieje narodu polskiego.
3. Wojciech Wasiutynski, Tysiac lat polityki Polskiej.
4. Сергей Михайлович Соловьёв, История России с древнейших времён.
5. Остроумов, История Флорентийского Собора.

*Зь гісторыі Беларусі*

# Да пытаньня „Змовы князёў“ 1481 году

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Выкарыстоўваючы гэтыя захады й турботы Казімера, Іван III тым часам праводзіў плянавую ліквідацыю незалежнасьці Ноўгарадзкай рэспублікі. Прыбыўшы ў Ноўгарад у 1475 годзе, ён інсцэнізуе тут «праведны суд» над ноўгарадзкім баярствам, намагаючыся ў такі спосаб пакончыць з супрацьмаскоўскай апазыцыяй і прыхільнікамі ВКЛ. Пайменна, ён становіцца «абаронцам» ніжэйшых слаёў ноўгарадзкага насельніцтва й, карыстаючыся ўлюбёнымі інтрыгамі свайго маскоўскага двара, правакацыяй і дэмагогіяй, зьбірае нямала «скаргаў» супраць непажаданых яму асобаў, якіх пасьля аддае пад суд ды высылае ў Маскву, а стуль у іншыя аддаленыя мясьціны ў ссылку.

У другі раз, але гэтым разам на чале вялікае арміі, Іван III зьяўляецца ў Ноўгарадзе ў 1477 годзе. Скліканае ноўгарадзкае апалчэньне не магло паставіць паважнага супраціву, і пад загрозай ваеннае сілы ён накідае Ноўгараду «мір», які фактычна ліквідаваў незалежнасьць гэтае рэспублікі. У Ноўгарадзе ўводзіўся такі лад, які панаваў у Маскоўшчыне, ліквідавалася таксама веча. Навет вечавы звон — гэты сымбаль незалежнасьці й дэмакрацыі — у пачатку 1478 году быў зьняты з свайго месца й адпраўлены ў Маскву. Вялікая тэрыторыя ноўгарадзкіх земляў, у тым ліку цэлая Дзьвіншчына, была прылучаная да Маскоўшчыны. Многа зямельных угодзьдзяў самога Ноўгараду й ягоных ваколіцаў, галоўным чынам зьліквідаваных баярскіх сем'яў і ноўгарадзкага духавенства, пераходзілі да вялікага маскоўскага князя на правах уласнае собскасьці.

На захадзе ВКЛ польска-вугорскі тэрмін завешаньня зброі падыходзіў да канца. Казімер гэтым часам набыў прыхільнікаў у васобе нямецкага цэзара Фрыдэрыка III і другіх нямецкіх князёў. Вугорскі кароль Мацьвей Корвін зблізіўся з Крыжацкім орданам. У лютым-сакавіку 1477 году між імі быў заключаны палітычна-ваенны саюз, згодна якога Крыжацкі ордан рабіўся пратэктаратам Вугоршчыны. Прадбачвалася таксама супольная вайсковая акцыя супраць Польшчы. Мацьвей Корвін забавязваўся дапамагчы крыжаком вярнуць ім тыя землі, якія былі прылучаныя да Польшчы ў выніку польска-крыжацкае вайны 1454—1466 гадоў; крыжакі ў сваю чаргу меліся дапамагаць Мацьвею Корвіну ў заваяваньні Польшчы. Гэты саюз не закранаў ні Вялікага Княства Літоўскага, ні Мазоўшчыны („salva pace, quam cum Lithwanis et Masovitis habet“),[39] г. зн. абыдва бакі забавязваліся шанаваць нэўтральнасьць і незалежнасьць гэтых гаспадарстваў з узгляду, ведама, наяўнасьці заключаных умоваў аб нэўтральнасьці й ненападзеньні між імі й Крыжацкім орданам. Аднак, як і раней, у польска-вугорскую спрэчку ўмяшалася Папская курыя, падтрымоўваючы Мацьвея Корвіна. Рым найперш запатрабаваў заключэньня новага завешаньня зброі на адзін год і калі Казімер паставіўся адмоўна, папа прыгразіў Казімеру й ягонаму сыну чэскаму каралю Ўладыславу адхіленьнем ад царквы. Была разасланая навет па касьцёлах адпаведная папская Буля.

Гэта, ведама, спрычынілася да замяшаньня спасярод прыхільнікаў ці саюзьнікаў Казімера, і ў канцы 1477 году яго пакідае ў першую чаргу цэзар Фрыдэрык III, заключыўшы ў пачатку сьнежня гэтага году згоду з Мацьвеям Корвінам. Ён адклікаў сваё прызнаньне Ўладыслава чэскім каралём і нямецкім электам, прызнаючы гэтыя правы за Мацьвеем Корвінам. Польшча не атрымала таксама дапамогі ад Мазоўшчыны, тым больш ад Вялікага Княства Літоўскага, хоць у гэтым кірунку Казімер рабіў адпаведныя захады. Вайна з Мацьвеям Корвінам праводзілася пераважна Ўладыславам і чэскімі сіламі. У 1478 годзе супраць Польшчы выступіў таксама Крыжацкі ордан. Усё гэта змусіла Казімера шукаць паразуменьня з Вугоршчынай і ў канцы 1478 году дахадзіць да завешаньня зброі з боку ўсіх партнэраў ці іх праціўнікаў, уцягнутых у гэтую вайну. Між Вугоршчынай, Чэхіяй і Польшчай у пачатку 1479 году была заключаная мірная ўмова, згодна якое Мацьвей Корвін зракаўся свае пратэкцыі над Крыжацкім орданам, але з другога боку прызнаваўся праўным вугорскім каралём ды пажыцьцёва распаўсюджваў сваю ўладу на Маравію, Сілезію й Лужычыну, за што вялося змаганьне з чэскім каралём Уладыславам. «Вечны мір» з Крыжацкім орданам быў падпісаны глыбокай восеняй гэтага 1479 году пасьля зьезду ўсіх зацікаўленых манархаў, у тым ліку Казімера й Мацьвея Корвіна, у Нойштадце ў верасьні гэтага году.

Казімер, ведама, не пакідаў сваіх спадзяваньняў і імкненьняў заўладаць Вугоршчынай. Пасьля сьмерці Мацьвея Корвіна ў 1490 годзе ён выправіў у Вугоршчыну з арміяй свайго сына Яна Альбрэхта. Праўда, вугорская шляхта й магнаты запрасілі да сябе другога сына Казімера — чэскага караля Ўладыслава. Між двума братамі ўспыхнула вайна, якая кончылася аднак перамогай Уладыслава. Усё гэта сьветчыць пра тое, як блізкай Казімеру была ягоная прапольская дынастычная палітыка ў Чэхіі й, асабліва, у Вугоршчыне ды як далёка ён занядбоўваў інтарэсамі Вялікага Княства Літоўскага.

Што-ж у гэты час дзеілася ў Вялікім Княстве Літоўскім? Умацоўваючы свае паўднёвыя ўзьмежжы перад магчымым нападам Туркаў, Ліцьвіны адначасна шукалі зьбліжэньня з Рыгай і ў гэтай сувязі ўпарадкавалі рыска-полацкія гандлёвыя ўзаемадачыненьні, што пахіснуліся з часоў польска-крыжацкай вайны. Яны ўвесь час сачылі таксама за падзеямі ў Ноўгарадзе, падтрымоўваючы зносіны з супрацьмаскоўскай апазыцыяй. Бязумоўна, Іван III меў паважныя прычыны зьявіцца ў Ноўгарадзе ў 1477 годзе на чале зь вялікай арміяй, бо ён вельмі добра адчуваў, што за сьпіной супрацьмаскоўскай апазыцыі хавалася акцыя ВКЛ. І запраўды вялікакняжая Літоўская Рада рыхтавала супрацьмаскоўскі пераварот у Ноўгарадзе ды сама падрыхтоўвалася да вайны з Маскоўшчынай. Як бачна зь ліста Віленскага біскупа Яна да вялікага магістра Прусіі, пісаны 1 студзеня 1478 году й у якім даваўся адказ крыжаком на запытаньне, калі крыжакі й Ліцьвіны могуць зьехацца для абмеркаваньня супольных справаў і далейшага супрацоўніцтва, Ліцьвіны склікалі агульны сойм на 6 студзеня,[40] які, відавочна, меўся заняцца пытаньнем Ноўгараду, а таксама пытаньнем літоўскае дапамогі Польшчы, чаго патрабаваў Казімер.

Гэты сойм выказаўся за аб'яўленьне вайны Маскоўшчыне. Пацьверджаньне гэтага мы знаходзім у пасольскіх запісках Лівонскага магістра да вялікага магістра Прусіі з 11 сакавіка гэтага 1478 году, у якіх паведамлялася, што ў Літве праводзіцца пасьпешнае ўзбраеньне й відавочна супраць Івана III, што «заджадаў ад ВКЛ многіх земляў», у тым ліку Смаленшчыны й Віцебшчыны. Апрача гэтага таксама паведамлялася, што ў ВКЛ на агульны сойм прыбывае Казімер і што Ліцьвіны не згаджаюцца даць дапамогу Казімеру супраць вугорскага караля Мацьвея.[41] Апошні сойм, пра які ўспаміналася ў пасольскіх запісках Лівонскага магістра, адбыўся ў Берасьці 15 сакавіка. Праўдападобна ён быў скліканы на дамаганьне Казімера, які жадаў адгаварыць Ліцьвіноў ад іхных імкненьняў да вайны з Маскоўшчынай ды меўся сьхіліць іх да вайны з Вугоршчынай. Сойм быў скліканы ня ў Вільні, але ў Берасьці, г. зн. на ўзьмежжы з Польшчай. Казімер таксама ня думаў доўга затрымоўвацца ў ВКЛ, бо зразу-ж пасьля гэтага сойму ён зноў вярнуўся ў Польшчу. Ведама, ужо гэты кароткі пабыт Казімера ў ВКЛ сьветчыць пра тое, што ен ня быў зацікаўлены літоўска-маскоўскімі справамі, а наадварот прыбыў сюды, каб заняць сваю ранейшую пазыцыю. Ліцьвіны аднак патрабавалі неакладнае акцыі супраць Маскоўшчыны й у гэтай сувязі зьвярнуліся да Казімера назначыць вялікім князём літоўскім аднаго з сваіх сыноў — Казімера або Альбрэхта. Чаму цяпер Ліцьвіны прасілі пакінуць у ВКЛ на вялікакняжым пасадзе аднаго з сыноў Казімера, а не з князёў Алелькавічаў, паясьняецца зразумелымі прычынамі варожасьці Казімера да першапа-

(Працяг на 4-ай бачыне)

# Калі сьляпыя пачнуць бачыць?

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

прапануе партыі знайсьці аргумэнты, якія пераконвалі-б Казахаў, што русыфікацыя іхнай краіны й пагроза, што казахская нацыя за 10-20 год можа наагул перастаць існаваць — што гэта менавіта й зьяўляецца «інтэрнацыяналізмам» і «дружбай народаў».

Мы ня маем канкрэтных дадзеных аб тым, як у гэтым дачыненьні трымаюць сябе у Казахстане сотні тысяч Беларусаў, Украінцаў і прадстаўнікоў іншых нерасейскіх нацыянальнасьцяў, высыланых для калянізацыі гэтай тэрыторыі. Але мы маем падставы сьмела рабіць прыпушчэньні, што яны таксама ня годзяцца так лёгка з сваім уласным трагічным палажэньнем і з тэй агіднай роляй, у якую стаўляе іх бальшавіцкая Масква — сваёй уласнай дэнацыяналізацыяй і русыфікацыяй ды служэньнем прыладай для русыфікацыі мясцовага насельніцтва. Нядаўнія падзеі ў Тэмір-Таў паказалі, што перасяленцы з Беларусі й іншых нерасейскіх раёнаў здольныя на рашучыя дзеяньні далёка не ў карысьць маскоўскіх дырэктываў.

У дачыненьні да карэннага насельніцтва Казахстану прапановы Джандільдіна пакуль-што, як выглядае, нерэальныя, бо навет вычышчаная з няпэўных казахскіх элемэнтаў партыя далей застаецца пад уплывам «нацыяналізму», ня гледзячы на строгі маскоўскі кантроль над ёй. У партыі й далей дапускаюцца сур'ёзныя памылкі, недацэньваецца «прагрэсыўнае значэньне прылучэньня Казахстану да Расеі», ідэалізуецца мінулае. Гэтыя «нацыяналістычныя пагляды», ня гледзячы на войструю крытыку, пашыраюцца, пранікаюць у школьныя падручнікі; давялося нанова «перарабляць» (чытай — фальшаваць) двутомнік Гісторыі Казахстану, выпраўляць лінію шматлікіх казахскіх газэтаў, творчасьць казахскіх літаратараў, мастакоў і так далей.

Падхалім-Джандільдін з надзвычайнай энэргіяй абараняе цяперашнюю русыфікацыйную палітыку Масквы. «Большы прыплыў людзей з вялікіх, у культурным дачыненьні больш разьвітых цэнтраў краіны меў пазытыўны ўплыў на агульны ўздым культурнага ўзроўню сельскага насельніцтва», — піша ён.

Тут, відавочна, гутарка йдзе пра вялікі прыплыў расейскага элемэнту, які Джандільдін называе носьбітам культуры ў цёмную казахскую краіну. Падобных «культуртрэгэраў» у Азіі ці Афрыцы савецкая прапаганда войстра асуджае і, паклікаючыся на самавызначэньне нацыяў, вымагае ад іх, каб яны адтуль выбіраліся. Але гэта, як ведама, ангельскія, францускія, бэльгійскія й іншыя «імпэрыялістычныя панявольнікі». Расейскія імпэрыялістыя, як выходзіць, маюць права рабіць гэта і ў Казахстане, і ў іншых нерасейскіх рэспубліках. Змаганьне з расейскім каляніялізмам — гэта, паводля бальшавіцкага разуменьня, нацыянальная «абмежаванасьць», нацыянальныя «забабоны», якія трэба выкарэньваць агнём і мячом. І партыя ўважае найвыгаднейшым рабіць гэта рукамі здраднікаў саміх паняволеных народаў.

Выглядае, што пагляды пра расейскі каляніялізм папулярныя сяньня ў Сав. Саюзе. Хіба ня прыпадкова часапіс «Коммуніст» ізноў узьняў гэтае пытаньне на сваіх старонках. Грузінскі «нацмен» Георгідзе, сакратар прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР, пішучы ў «Коммуністе» на гэтую тэму, падкрэсьліваў, што намаганьні «буржуазных ідэялёгаў» перакаваць падсавецкія народы, што расейскі народ праводзіў каляніяльную палітыку — не ўдадуцца. «Усе нацыянальнасьці нашай краіны бачаць у расейскім народзе старэйшага брата», — піша ён. Але адначасна ён мусіў прызнаць, што сярод паняволеных народаў расьце апазыцыя да гэтага «старэйшага брата», што ў Савецкім Саюзе й далей існуюць праявы «буржуазнага нацыяналізму», нацыянальнай неталерацыі. Ён заклікае: «Мы павінны зьвярнуць на падобныя рэцыдывы найбольш сур'ёзную ўвагу. Пад выглядам нацыянальных традыцыяў у наша жыцьцё ўціскаюцца рэакцыйныя звычаі й абычаі. Сустракаюцца праявы мясцовага нацыяналізму . . . »

На гэтым месцы варта прыгадаць, што некалькі год таму падобныя трывожныя галасы пра нацыянальныя апазыцыйныя настроі да палітыкі Масквы былі масавым зьявішчам амаль ўва ўсіх нерасейскіх рэспубліках і што Хрушчову з цяжкасьцямі ўдалося іх прыглушыць. Гэтыя настроі былі відавочным вынікам лібэралізацыі рэжыму пасьля сьмерці Сталіна. Аднак той факт, што цяпер на гэтую тэму ў Савецкім Саюзе гаворыцца менш, зусім не азначае, што нацыянальныя праблемы перасталі там быць актуальнымі, або што, як вераць ці хочуць верыць, некаторыя задурманеныя русафільствам заходнія палітыкі, там адбываецца чуць ні дабраахвотнае зьліцьцё нацыяў. Пададзеныя вышэй прыклады паказваюць, што змаганьне нерасейскіх народаў супраць расейска-бальшавіцкага каляніялізму працягваецца, і што ў сучасных умовах сусьветнага адраджэньня нацыяў, да таго нацыяў далёка менш разьвітых за паняволеныя Масквой народы, няма ніякіх падставаў думаць, што гэтыя народы дабраахвотна здадуць свае пазыцыі і дадуць сябе зьесьці. Як мы ўжо гаварылі, вонкавы штучны супакой, створаны тэрорам бальшавіцкай сыстэмы, і заўзятая прапаганда пра раўнапраўнасьць народаў яшчэ зусім не азначаюць, што нацыянальная праблема ў СССР перастала быць актуальнай. На няшчасьце паняволеных народаў і вольнага сьвету на Захадзе разумеюць гэта далёка ня ўсе.

**М. С.**

**Ант. Адамовіч**

# Алесь Гарун

### ЖЫЦЬЦЁ Й ТВОРЫ

У гісторыі нашае літаратуры постаць Алеся Гаруна паўстае ў пáры з постацяй Максіма Багдановіча ўзаплеч старэйшай пáры Янка Купала — Якуб Колас у чале руху літаратурнага адраджэнства, ці «адраджанізму», авангарду ўсяго беларускага руху эпохі нацыянальна-культурнага адраджэньня. Ставіць іх у вадну такую пáру найперш (хоць і не найбольш) нажальная кароткасьць адначаснага й блізу што роўнага жыцьцёвага й творскага шляху, на якім дасьпелася кажнаму зь іх выдаць па адным усяго зборніку вершаў — кнізе лірыкі (Максіму Багдановічу — ягоны «Вянок», Алесю Гаруну — «Матчын Дар») і які цалком застаўся ў руху адраджэнства й эпосе Адраджэньня, ня выйшаўшы за іхныя межы (як у Купалы й Коласа).

Калі Гарун і нарадзіўся на пару год раней за Багдановіча (у 1887 г.), а памёр на тры гады пазьней (у 1920 г.), дык гэтым ня так ужо яму пашчасьціла. Бо па сьмерці Багдановічу ручыла куды больш у важнейшым — у вадказаньні свае спадчыны нашчадкам: акадэмічнае выданьне твораў, рупна апрацаванае, грунт гэтае спадчыны й даюць, пасьпела выйсьці яшчэ за самымі «добрымі нацдэмаўскімі часамі» ў БССР, у 1927—28 г.г., тымчасам гэткае-ж выданьне Гаруновых твораў, зрыхтаванае сьледам у 1929 г., пасягла доля тае «нацдэмаўшчыны», нагон на якую разгарнуўся на ўсю якраз калі яно толькі пачало набірацца да друку. Прадчуцьцём рыхтавальнікаў-выдаўцоў удалося ўратаваць адно «Матчын Дар», ужо набраны, выпусьціўшы яго як асобны адбітак першае часткі поўнага акадэмічнага Збору Твораў.[1]

У прадмове да гэтага адбітку рэдактар, акадэмік І. Замоцін, што зрэдагаваў і акадэмічнае выданьне Багдановіча, высьняў, што «збор твораў, у які павінны ўвайсьці ня толькі вершы Алеся Гаруна, але й яго мастацкая проза й драматычныя творы, падрыхтаваны да друку», але выдаецца тымчасам адзін «Матчын Дар», бо «ўлічваючы, з аднаго боку, пэўную вартасьць гэтага зборніка вершаў Алеся Гаруна, як найбольш мастацка апрацаванай часткі яго літаратурнай спадчыны, а з другога — тэхнічную магчымасьць перавыдаць зборнік зараз-жа, не чакаючы зьяўленьня ў сьвет поўнага акадэмічнага выданьня твораў Алеся Гаруна, Беларуская Акадэмія Навук знайшла пажаданым першы аддзел збору яго твораў, г. зн. зборнік «Матчын Дар», выпусьціць асобнай кніжкай, незалежна ад поўнага збору твораў, куды «Матчын Дар» у сваю чаргу ўвойдзе ў якасьці першага аддзелу».[2] Гэнае «свае чаргі» аднак так ужо і не надыйшло: у пагроме «нацдэмаў» нат выпушчаны «Матчын Дар» нядоўга пабыў у продажы, а на давядзеньне да канца выданьня поўнага збору твораў пала цяжкая рука забароны. Гэтак гатовы да друку тэкст ягоны быў складзены ў архіве Акадэміі, дзе й пераховўваўся да апошняе вайны. З разгромам архіваў Акадэміі за гітлераўскай акупацыяй тэкст гэты перайшоў у вадны прыватныя рукі, дый зноў-жа непамысна — гэтак, што й няма ведама, ці захаваўся ён, прыхаваны гэнымі рукамі ў вадным месцы па той бок зялезнае заслоны, ці не, і з усяго найпраўдападобней, што не . . .

Дык для перавыданьня Гаруновых твораў у вольным сьвеце няма гэткай паўніні матарыялаў, якая была для перавыданьня Багдановічавых ці нат Купалавых, ужыцьцёўленага намі ў «падручных кнігах для беларускага эмігранта» — «Спадчыне» й «Вянку». Няма й вялікае надзеі, што матарыялы гэтыя могуць папоўніцца з-за зялезнае заслоны — «табу», накладзенае тамака на Гаруна яшчэ вышуспомненымі часамі, застаецца непарушным і ўсе «рэгабілітацыі» яго абмінулі. Найпракудней, што «табу» гэнае абумоўленае зусім не характарам самых ягоных твораў, а ўсяго некаторымі фактамі біяграфіі. Бо ў творах Гаруновых зусім нельга знайсьці гэтулькі таго «буржуазнага нацыяналізму» ды іншых ідэялягічных пракудаў, колькі, скажам, у творах Купалавых.

Вытыканая Гаруну калісь «ідэялізацыя мінуўшчыны», як галоўная такая пракуда, знайшла сабе месца хіба ўсяго ў пары вершаў («Як надарыцца мінута», «Ты, мой брат»), тымчасам як яе поўна ў дасаветызаванага Купалы. «Зьняважлівы» тэрмін «Маскаль» ужыты ўсяго бадай адзін раз, дый тое ў зусім незьняважлівым кантэксьце (у вершы «Жабрачка») — і ня гэтак часта і ня гэтак войстра, як у таго-ж Купалы ці нат Коласа. Не трапляецца й больш-менш выразных антыбальшавіцкіх выпадаў, як у гэтых двух апошніх. Наадварот, ёсьць навет «пралетарскія» марксыстаўскія ноткі, якіх ня было ў нікога больш з нашаніўцаў і якія сваім часам выцягваў Адам Бабарэка, а за ім і цэлае «Узвышша». І толькі апошнія гады біяграфіі, гады польскае акупацыі Менску, 1919—1920, зь вітаньнямі Пілсудзкага (хоць і Купала тут, як ведама, ня зусім бяз «грэху», ды меншага ўсё-ж дзеля таго, ды іншых «заслугаў», дараванага, хаця й вытыканага некалі таксама), і галоўнае — з удзелам у Беларускай Вайсковай Камісіі — цяжаць увачччу бальшавікоў нагэтулькі, што не даюць ходу й творам, дармо, што «марксыцкае літаратуразнаўства» прысягаецца заўсёды, быццам для яго важыць адно «творчасць», а ня біяграфія . . .

Няма надзеі, каб калі схадзілі, куды трэба, па розум, па звычайную лёгіку, калі ўжо не па той «марксызм», ды пераўважылі ўсё гэта. Шкада, ды факт, зь якім толькі даводзіцца лічыцца, адзначыўшы яго й пераходзячы над ім да самое рэчы, найперш — да высьвятленьня тае самае біяграфіі паэты, што гэтак яму напракудзіла й што, пры ўсім абмежаным значаньні яе ня толькі для «марксыцкага літаратуразнаўства», але й для кажнае паважнае навукі пра літаратуру, становіць сабою ўсё-ж фон творства паэты ці пісьменьніка.

У сваім нарысе пра Гаруноў «Матчын Дар», напісаным у 1928 г. і перадрукаваным намі тутака, праф. А. Барычэўскі адзначыў «пакуль што малую высьветленасьць біяграфіі» паэты. Аднак, у цытаванай вышэй прадмове да акадэмічнага перавыданьня «Матчынага Дару» 1929 г. адзначана, што ў поўным зборы твораў зьмяшчаецца й крытычна-біяграфічны нарыс пра паэту. Наколькі нарыс той прычыняўся да высьвятленьня Гаруновай біяграфіі, ня маючы яго, сказаць нельга, як нельга й той нарыс выкарыстаць. У тым, што застаецца тут да выкарыстаньня, галоўнае месца й з боку паўніні і з гледзішча аўтэнтычнасьці, належыцца біяграфічнай даведцы ў першых выданьнях «Гісторыі Беларускае Літаратуры» Максіма Гарэцкага. Пісаная выразна із словаў самога паэты, даведка гэтая можа зь вялікай рацыяй уважацца нат за аўтабіяграфічную, Дзеля ўсяго гэтага найлепш будзе й падаць тут яе цалком на гэтым-жа месцы:

(Працяг у наступным нумары)

# Зь беларускага жыцьця

**ДАКЛАД ПРОФ. АНТ. АДАМОВІЧА Ў МЮНХЭНЕ**

Выкарыстоўваючы нагоду кароткага прабываньня праф. Ант. Адамовіча ў Мюнхэне, куды ён быў прыехаў зь Нью Ёрку дзеля ўдзелу ў навуковай канфэрэнцыі Інстытуту Вывучэньня СССР і ягонай асамблеі, мюнхэнскі аддзел Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва зарганізаваў 4-га жніўня сёлета навуковую зборку, на якой праф. Адамовіч зрабіў цікавы й глыбокі даклад на тэму «Беларусь у атамную эпоху».

Здавалася-б, — а многім прысутным на зборцы і ўзапраўды здавалася, — што мае супольнае Беларусь із роляй асваеньня атамнае энэргіі? Тымчасам, як паказаў дакладчык, між гістарычнай роляй атаму й тымі працэсамі, што адбываюцца сяньня ў Беларусі, існуе бясспрэчная сувязь. З гледзішча на цікавыя, трапныя й арыгінальныя разважаньні дакладчыка, будзе цікава зьмест ягонага дакладу коратка пераказаць гэтта.

Атамная эпоха ў сэньсе фізычным пачынаецца ўжо напярэдадні Другой сьветавай вайны, калі ў 1939 годзе бэрлінскаму прафэсару Отто Гану ўдалося практычна расшчапіць атам. Практычнае канкрэтнае выкарыстаньне атамнае энэргіі, пры гэтым выкарыстаньне зьнішчальнае, мела месца шэсьць год пазьней, калі 6-га жніўня 1945 году ўпала першая атамная бомба на Гірашыму, а тры дні пазьней, 9-га жніўня — на Нагасакі, што палажыла канец вайне й практычна распачало новую эпоху ў гісторыі ўсяго людзтва, эпоху, у якой даводзіцца жыць і нам.

Але, як і заўсёды, у пары з эпахіяльнымі фізычнымі вынаходніцтвамі ідуць і ўзьнікненьні адпаведных ім і ўзалежненых ад іх ідэяў, гэтак і тут — з пачаткам асваеньня атамнае энэргіі зарадзілася і новая ідэя ў псыхаідэялягічнай роўніцы — атамная бомба камунізму. Падобна як перад практычным расшчапленьнем атаму ў 1939 годзе шмат раней была ўстаноўленая ў тэорыі практычная магчымасьць ягонага расшчапленьня, гэтак і тэарэтычнае паўстаньне й сфармуляваньне камунізму было зробленае некалькі дзесяцігодзьдзяў раней Карлям Марксам. Але ягоную тэорыю практычна ажыцьцявіў Ленін, а залпы крэйсара «Аўроры» па зімнім палацы ў Петраградзе ў 1917 годзе былі Гірашымай у псыхаідэялягічнай роўніцы.

Ад гэтага часу пачынаецца рывалізацыя, пераходзячая ў ідэялягічнае й часамі нат мілітарнае змаганьне між сьветам камуністычным — Эўразіяй і сьветам антыкамуністычным — Эўрамэрыкай (гэты ўдалы тэрмін упяршыню ўвёў заходні дасьледнік камунізму д-р Вальтэр Колярц). Ня было яшчэ вялікай бяды датуль, пакуль Савецкі Саюз меў толькі псыхаідэялягічную атамную бомбу — камунізм. Але горш стала, калі Саветы здабылі і фізычную атамную бомбу. Ад гэнага часу над сьветам нависла загроза татальнага атамнага зьнішчэньня, і пад знакам гэтае загрозы разьвіваюцца сяньня ўсе важнейшыя гістарычныя падзеі.

Перад людзкасьцяй узьнікла аснаўная праблема — **выжыць і як выжыць?** На Захадзе зарысаваліся сяньня тры розныя тэорыі дзеля гэтага **як выжыць:** 1. Адна тэорыя рэпрэзэнтаваная ведамым ангельскім філёзафам Бэртрандам-Расэлям, які радзіць прыняць найменшае зло — **паддацца** паводля ведамай формулы better red than dead (лепш быць чырвоным, чымся памерці). 2. Іншая тэорыя, найбольш сяньня пашыраная, — гэта **не паддавацца**, але практычна **паддацца.** Гэта тэорыя супраціву, які ў выніку вядзе да кампрамісаў і ўступак на карысьць камунізму, тэорыя, якая ў дасюлешняй практычнай палітыцы брала верх і была прычынай хуткага пашырэньня камунізму ў сьвеце. 3. Трэйцяя тэорыя — **не паддавацца, але змагацца, хоць і ня перамагчы.** Хоць гэтая апошняя тэорыя й мае сваіх гарачых прыхільнікаў, нажаль, не лягла яна яшчэ ў васнову практычнае палітыкі. Трэба, аднак, спадзявацца, што сьвет прыйме гэтую тэорыю, як адзіную, якая забясьпечыць гэтае **выжыць** і дасьць яму перамогу.

У выніку гістарычных падзеяў уся Беларусь апынулася ў вабсягу Эўразіі, пад панаваньнем камунізму, які нясе ёй нацыянальнае зьнішчэньне. Вось-жа й сярод Беларусаў дзеля таго, каб выжыць, маюць месца гэтыя тры тэорыі. Але дзеля таго, што беларускі народ мае няшчасьце быць канкрэтным аб'ектам камуністычнага нішчэньня, сярод яго гэтая апошняя, адзіна збаўленная ў сваім прынцыпе тэорыя — не паддацца, але змагацца, хоць і ня перамагчы — знайшла сваё шырокае практычнае прытарнаваньне.

Згодна і ў імя гэтае ідэі адбываўся і адбываецца ўвесь нацыянальны супраціў беларускага народу перад саветызацыяй і ейнай найстрашнейшай формай — русыфікацыяй. Гэты супраціў праяўляўся й праяўляецца ўва ўсіх галінах жыцьця — палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай, культурнай і галоўна — моўнай.

Гэтая апошняя галіна — абарона й захаваньне роднае мовы перад ейным зьнішчэньнем сталася апошнім часам найбольш вызначальнай. Падобна як некалі Францішак Багушэвіч кінуў магутны лёзунг — **«Беларусы, не пакідайце мовы вашай беларускай, каб ня ўмерлі!»**, гэтак сяньня беларускія пісьменьнікі Савецкай Беларусі ўсімі даступнымі ім спосабамі праводзяць абарону роднае беларускае мовы. У гэтым іхная вялікая гістарычная роля, у гэтым і іх нацыянальная заслуга.

Даклад праф. Адамовіча быў выслуханы зь вялікай увагай, а дыскусія, якая была над ім праведзеная, часткова папоўніла назіраньні дакладчыка.

**Ст. Ст.**

## АБВЕСТКА

Выйшлі з друку й прадаюцца:

1. «Вялікалітоўская (Беларуская) Кухарка»,
2. «Беларуская Кухарка» паангельску.

Цана 75 цэнтаў кажная, зь перасылкай 85 цэнтаў.

Выпісваць у М. Станкевіч, 6 Vandervoort Place, Brooklyn 37, N. Y. U. S. A.

# Свабода інфармацыі

Тэхнічны прагрэс і разьвіцьцё сяродкаў сувязі зьліквідавалі шмат перашкодаў, якія стаялі на шляху пашыраньня інфармацыі. Але ў гэтых новых умовах праўдзівасьць інфармацыі набірае адмыслова кажнае значэньне. Людзі пачалі штораз лепш разумець, што няправільная інфармацыя, а навет, няпоўная, можа спрычыніць памылкі, небясьпечныя ня толькі для лёсу паасобных краінаў, але і для міжнароднага міру.

У 1893-ім годзе на сусьветнай канфэрэнцыі ў Чыкага першы раз была высунутая ідэя стварэньня належнага міжнароднага інфармацыйнага агенцтва, як найлепшага сяродку перашкодзіць міжнародным ускладненьням і канфліктам. Нажаль, гэтая ідэя засталася толькі добрым пажаданьнем. У 1919-ым годзе, калі ў Вэрсалі абмяркоўваліся варункі мірнай умовы, старшыня амэрыканскага агенцтва «Асошыэйтэт Прэс» Кэнт Купэр ізноў высунуў гэтую ідэю стварэньня міжнароднага інфармацыйнага агенцтва. Але ні яму, ні ягоным прыяцелям не ўдалося пераканаць тых, хто тады вырашаў лёс сьвету.

Пасьля Першай Сусьветнай вайны ня толькі ня была створаная такая міжнародная ўстанова, але ў шмат якіх краінах ізноў перамог прынцып паліцыйнага кантролю над інфармацыяй. Такія тэлеграфныя агенцтвы, як «Стэфані» у Італіі, «ДНБ» у Нямеччыне, «ДОЭМІ» у Японіі і «ТАСС» у Савецкім Саюзе, з інфармацыйных арганізацыяў, якія мелі зьбіраць і пашыраць навіны, ператварыліся ў складовую частку прапагандовага апарату таталітарных рэжымаў. У 1946-ым годзе, Генэральная Асамблея Аб'едналых Нацыяў абвесьціла свабоду інфармацыі асноўным правам чалавека і фундамэнтам усіх свабодаў.

У 48-ым годзе ў Жэнэве адбылася канфэрэнцыя, прысьвечаная свабодзе інфармацыі. На ёй сутыкнуліся два няпрымірэнчыя пункты гледжаньня. Адзін бок — Савецкі ўрад цьвердзіў, што ўсе гутаркі аб поўнай аб'ектыўнай інфармацыі — гэта буржуазная аблыжнасьць, што мэтай інфармацыі зьяўляецца выхаваньне працоўных і арганізацыя іх пад кіраўніцтвам партыі, што інфармацыя — гэта зброя клясавага змаганьня, а ніякім чынам ня люстра, якое аб'ектыўна паказвае факты і гэтак далей.

Прадстаўнікі заходніх дэмакратыяў, наадварот, абаранялі пункт гледжаньня, што мэта інфармацыі — гэта як найбольш дакладна і праўдзіва паведамляць аб усіх найбольш важных фактах і пераказваць розныя думкі аб іх.

Ня гледзячы на гэтыя асноўныя разыходжаньні ў пытаньні аб свабодзе інфармацыі, Савецкі Саюз усё-ж-такі падпісаў Дэклярацыю Правоў Чалавека, якая была прынятая Генэральнай Асамблеяй ААН у сьнежані 48-га году. У гэтай дэклярацыі гаворыцца: «Кожны чалавек мае права на свабоду перакананьняў і на свабоднае выказваньне: гэтае права ўключае свабоду бесьперашкодна прытрымоўвацца сваіх перакананьняў і свабоду шукаць, атрымоўваць і пашыраць інфармацыю і ідэі ўсякімі сродкамі і незалежна ад дзяржаўных межаў.»

Але ці Савецкі Саюз, падпісаўшы гэтую Дэклярацыю Правоў Чалавека, выконвае яе? Навет брашуры і кнігі, якія выдае арганізацыя Аб'едналых Нацыяў, пераважна ня маюць доступу ў Савецкі Саюз і іх не перакладаюць на мовы народаў СССР. Так, напрыклад, не перакладзеная брашура «Свабода прафсаюзаў», тады, калі гэтая брашура зьяўляецца хартыяй сындыкальнай свабоды, якая была прынятая ў 1948-ым годзе Міжнародным Бюро Працы. Няма ў мовах народаў Савецкага Саюзу брашуры аб злачынстве гэнэсыду, або народазабойства, гэта значыць аб злачынстве, якое робіцца з намерам поўнасьцяй, альбо часткова зьнішчыць якую-небудзь нацыянальную, расавую, або рэлігійную групу насельніцтва. Няма таксама ў Савецкім Саюзе і брашуры аб прымусовай працы.

Такім чынам — як ня дзіўна — насельніцтву Савецкага Саюзу недаступныя выданьні Арганізацыі Аб'едналых Нацыяў, куды, як ведама, уваходзіць і Савецкі Саюз.

**бв**

# Радыска на 44-ым годзе рэвалюцыі

Што мае супольнага радыска з рэвалюцыяй? — папытаюцца пэўна нашы паважаныя чытачы. А вось мае! Яе даводзіцца шукаць сёньня на Беларусі ізь сьвечкай — таксама, як і іншых дасягненьняў сацыялізму, пра якія столькі гаворыць савецкая прапаганда. Калі хто ня верыць, няхай прачытае артыкул у газэце «Калгасная праўда» — «Кожнай гародніне — свой час».

Грамадзянаў Менску, якія бегаюць ад магазыну да магазыну, шукаючы радыскі і іншай сьвежай гародніны, называюць спартсмэнамі паняволі. Замест радыскі, ім прапануюць то квашаную капусту, то леташнія буракі. Сьвежай гародніны няма. Нарыхтоўшчыкі ў пошуках яе езьдзяць далёка. «У многія канцы паўднёвых рэспублік пасылаюць тэлеграмы — а вось клюне», — чытаем у газэце. Але — ня клюе. Ня клюе, бо й там няма.

Замест сьвежай гародніны, партыя корміць насельніцтва беларускай сталіцы плянамі пра забесьпячэньне прадуктамі сельскай гаспадаркі. «Калгасная праўда» піша: «У пачатку лютага гэтага году Менскі абком партыі і Аблвыканком прынялі пастанову, што саўгасы павінны забясьпечыць гандлёвую сетку ня толькі позьняй, але і раньняй гароднінай».

Але пастанова, як гэта звычайна бывае ў Савецкім Саюзе, засталася на паперы, а радыскі ў дзяржаўных магазынах як ня было, так і няма. Знайсьці можна толькі не сацыялістычную радыску, у «прыватнікаў». «Прыватнікі ня першы год трымаюць у горадзе манаполію на гандаль раньняй гароднінай», — скардзіцца газэта.

Гэтак выглядае на 44-ым годзе рэвалюцыі ледзь не анэкдатычная гісторыя з сацыялістычнай і «прыватніцкай» радыскай у Менску. Але за гэтай гісторыяй тоіцца горкая праўда. Гісторыя з раньняй радыскай — клясычны прыклад нядзарнасьці савецкай гаспадарчай сыстэмы. Як нашым чытачом ведама, на Беларусі не стае ня толькі радыскі і наагул сьвежай гародніны. Няма там і іншых тавараў. А як будзе далей? Сам Хрушчоў пацьвердзіў нядаўна на пленуме ЦК КПСС, што сельская гаспадарка перажывае глыбокі крызіс. Падаюць надоі малака, зьмяншаецца колькасьць рагатай жывёлы і гэтак далей. Але характэрным зьяўляецца тое, што крызіс перажывае толькі савецкая **казённая** гаспадарка. Паводля дадзеных зборніка «Сельское хозяйство», прыватны сэктар, гэта значыць сялянскія прысядзібныя землі і гароды работнікаў у гарадох, якія складаюць мізэрны працэнт апрацоўванай зямлі Савецкага Саюзу, выпрадукавалі ў 1959-ым годзе палавіну мяса, сала, гародніны, бульбы і 88 працэнтаў яек. Палавіну ўсяе прадукцыі Савецкага Саюзу!

Узьнікае пытаньне, чаму прыватнікі, як кажа «Калгасная праўда», маюць манаполь на радыску і іншую сьвежую гародніну? Чаму калгасьнікі на сваіх прысядзібных дзялянках і работнікі ў сваіх гародах могуць весьці інтэнсыўную гаспадарку, хоць дзяржава за гэта іх увесь час перасьледуе? Адказ просты: ім ніхто не накідае плянаў, яны свабодна могуць садзіць, сеяць і зьбіраць тое, што хочуць. А галоўнае — у гэтым выпадку яны зьяўляюцца гаспадарамі пладоў свае працы. У Савецкім Саюзе шмат гаворыцца пра матарыяльнае зацікаўленьне селяніна і работніка ў прадукцыі. У сапраўднасьці-ж, карысьць з гэтай прадукцыі маюць толькі партыя і савецкая бюракратыя. Работнік і селянін не сьляпыя: яны бачаць, што яны зьяўляюцца толькі прадметам эксплёатацыі. Таму ім абыякава, ці калгас або завод добра працуюць ці не. І вось таму на 44-ым годзе рэвалюцыі — на «парозе камуністычнага раю» — не стае радыскі, голак, чаравікаў, не стае малака, мяса, яек. Корань зла — у сыстэме, якая панявольвае чалавека, адбірае ад яго ініцыятыву і ахвоту да працы.

**М. С.**

# А дзе-ж запраўдныя дармаеды?

У Беларусі цяпер праводзіцца войстрае змаганьне з «дармаедамі». Газэта «Калгасная Праўда» у сваім перадавым артыкуле 13-га ліпеня заклікае як найхутчэй вывесьці дармаедаў і спэкулянтаў «на чыстую воду» і сурова пакараць. Але і бяз закліку «Калгаснай Праўды», на загад партыі ў абласных і раённых судох Беларусі адбываюцца шматлікія працэсы супраць «дармаедаў» і «спэкулянтаў». Часта за продаж морквы, пятрушкі ці яблыкаў із свае прысядзібнае дзялянкі работнікаў і сялян ганьбаць як спэкулянтаў і замыкаюць іх у турмы. Якраз у гэтым і палягае ўвесь фальш савецкай кампаніі супраць дармаедаў і спэкулянтаў, бо яна ў першую чаргу зьвернутая супраць сумленных людзей — сялян і работнікаў, якія цяжка працуюць на сваіх прысядзібных землях, вырошчваюць гародніну і садавіну, гадуюць жывёлу і такім чынам ратуюць свае сем'і ад напоўгалоднага існаваньня. І вось іх у першую чаргу савецкая прапаганда называе дармаедамі, хоць у запраўднасьці яны працуюць цяжэй за іншых. Іхная віна палягае ў тым, што яны ня хочуць аддаваць рэжыму амаль дарэмна пладоў свае працы, карыстаюцца імі самі, а лішкі прадаюць на базарах па рынкавых цэнах.

Ува ўмовах прававаога дзяржаўнага ладу праца на прысядзібных землях павінна карыстацца падтрымкай ураду. Паводля дадзеных зборніка «Сельское хозяйство», выдадзенага ў 1961-ым годзе, прысядзібныя землі работнікаў і сялян выпрадукавалі ў мінулым годзе 40 працэнтаў мяса, малака, гародніны і садавіны, 15 працэнтаў усяе бульбы і 75 працэнтаў яек. І гэта ў той час, калі прысядзібныя землі займаюць ня цэлыя два працэнты ўсёй ворнай зямлі Савецкага Саюзу. Гэта амаль неверагодна, але праўда. І няма сумліву, што без сельскагаспадарчай прадукцыі прысядзібных земляў, у Савецкім Саюзе запанаваў-бы голад.

Але замест таго, каб падтрымаць сельскагаспадарчую прадукцыю прысядзібных земляў, савецкі рэжым перасьледуе яе. Ня так даўно адзін з бальшавіцкіх верхаводаў заявіў, што адным з найбольш пашыраных відаў паразытнага існаваньня зьяўляецца выкарыстоўваньне зямельных надзелаў, якія знаходзяцца ў індывідуальным карыстаньні грамадзян. Яны, маўляў, атрымоўваюць зь іх «непрацоўныя» прыбыткі, узбагачваюцца.

Як бачым, сумленная праца на прысядзібных землях і прыбыткі з гэтых земляў, якія зьяўляюцца пераважна адзіным прыбыткам сялянскай сям'і — бо-ж ня можна лічыць галоднага калгаснага пайка — ганьбіцца ў Савецкім Саюзе, як паразытнае існаваньне і ўзбагачваньне. Сумленнай і карыснай працы на прысядзібных землях партыя абвесьціла бязьлітасную вайну.

А запраўдных-жа дармаедаў і паразытаў трэба шукаць ня там. Яны сядзяць у партыйных канцылярыях і нажываюцца на працы работнікаў і сялян. Гэта ў першую чаргу тыя партыйцы, што за кошт працоўных будуюць сабе ўласныя дамы і дачы, атрымоўваюць вялікую заработную плату, маюць свае банкавае конта і прыватныя легкавыя аўтамашыны. Гэта сотні тысяч партыйных бюракратаў у гарадох і вёсках, якія толькі тое і робяць, што гавораць на партыйных зьездах і сходах даўжэзныя прамовы, пішуць партыйныя інструкцыі ды разбазарваюць народную маемасьць. Гэта тысячы накінутых сілком сялянам калгасных старшыняў, што захоўваюцца ў калгасах горш за былых абшарнікаў, уважаюць калгас свае ўласнасьцяй і абкрадаюць яго разам з сваёй хэўрай партыйных супольнікаў. Грудзі гэтых дзесяткаў тысяч партыйных дармаедаў і паразытаў часта аздобленыя савецкімі ардэнамі. Іх, як на зьдзек, называюць «героямі сацыялістычнай працы», хоць часта яны ніколі ў жыцьці не працавалі, а рабілі кар'еру на поце і працы іншых. Калішні югаслаўскі камуністы Джыляс называе іх «новай кляcай», якая трымае ў панязоленьні народы Савецкага Саюзу. Так вечна заставацца ня можа: гэтыя паразыты на целе падсавецкіх народаў мусяць зьнікнуць.

## Да пытаньня „Змовы князёў" 1841 году

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

чатковае літоўскае ідэі. Апошняй тактыкай Ліцьвіны былі ўпэўненыя дабіцца хутчэйшае згоды Казімера, адначасна гэта таксама азначала ўнезалежненьне ад прапольскае палітыкі Казімера й разьвязаньне пытаньня свабоднага дзеяньня ў сваей вонкавай палітыцы. Казімер аднак паставіўся адмоўна й да гэтай просьбы Ліцьвіноў, зазначыўшы, што пакуль будзе жыць, датуль ня выпусьце вялікакняжага пасаду з сваіх рук.

Такія адносіны Казімера, ведама, яшчэ больш насьцярожылі да яго Ліцьвіноў, якія, адкінуўшы ягоную просьбу ўключыцца ў польска-вугорскую вайну, і пасьля Берасьцейскага сойму на сваю руку праводзілі пасьпешную падрыхтоўку збройнае схваткі з Маскоўшчынай. Гэтак у сваім пасольстве да вялікага магістра Прусіі з 31 сакавіка 1478 году лівонскі магістар паведамляў, што ў Літве й Жмудзі абвешчаны загад «маладым і старым узяцца за зброю»,[42] г. зн. быў дадзены наказ «паспалітага рушэньня». Да вайны з Маскоўшчынай аднак не дайшло. Як і раней, Ліцьвіны былі пазбаўленыя свайго палітычнага праваднікà ў васобе вялікага князя.

[39] Ibid., nr. 237, p. 259—261; nr. 241, p. 264—266.
[40] Ibid., nr. 262, p. 288.
[41] Ibid., nr. 263, p.289.
[42] Ibid., nr. 264, p. 290

(Далей будзе)

**П. Урбан**

### СЬПІС АХВЯРАДАЎЦАЎ ЗБК Ў КАНАДЗЕ, АДДЗЕЛ МОНТРЭАЛЬ, НА ДАПАМОГУ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ У НЯМЕЧЧЫНЕ

У кан. далярах зклажылі: А. Мяцеліца — 5, А. Храноўскі — 4, Ул. Астроўскі — 3.25, В. Воран — 2, П. Галаўніцькі — 1, П. Жартун — 1, М. Данілецкі — 1, Д. Вакулін — 1, І. Храноўскі — 1, І. Безай — 1, І. Лашук — 1, М. Грынко — 1, П. Попель — 1, Матковські — 1, П. Ворань — 1, А. Ворань — 1, В. Аноп — 1, А. Паліцілаў — 0,50, В. Станкевіч — 0.75, Ф. Сакайчук — 0,50, І. Гарбарчык — 0.50, А. Сокалаў — 0.50, Р. Ліпінскі — 0.50, І. Друзоў — 0.50, С. Наварай — 0.50, В. Чэховіч — 0.50, М. Лашук — 0.50, Ул. Карчаменько — 1.50, М. Стрэльскі — 1, Ф. Санаўчык — 0.50, А. Пасьвітаяў — 0.50 В. Андрусік — 1.50.

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ


**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.
**Mr. J. Chrenouski,** 2285 Sauve St. East, Montreal 12, Que.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon,** Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).






**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**